


У прадшколлі новыя цацкі. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 39 (1207) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 28.IX.1980 г.

**Даір Слаўковіч**




# Пачым фунт ліха

Дзень у Севы пачаўся дужа кепска. Ён пасварыўся са сваімі сябрамі: з катом Мурыкам і сабакам Жукам. Жука вадою з конаўкі абліў. Знарок, за тое, што стаяць на задніх лапах не жадаў.

— Будзеце ведаць цяпер, пачым фунт ліха!

Так бабуля гаворыць. Сева не раз чуў.

Мурык і Жук пакрыўдзіліся. Кот некуды ўцёк, сабака схаваўся ў будку. Скруціўся абаранкам і ляжыць ціхенька, быццам няма яго на падворку.

— Падумаеш! — надзьмуўся Сева. — Без вас пражыву. Шчасце такое — кот! І двор з хатай сцерагчы не абавязкова. Ды і бабуля хутка з агарода вернецца. Сам магу пакуль за сабаку пабыць.

Сева стаў на карачкі, прайшоў гэтак па сцежцы да брамкі. А там куры ў кветнік нацэліліся.

— Гаў! Гаў! Гаў! — забрахаў Сева.

Куры — куды каторая — разляцеліся з двара.

— Будзеце ведаць, пачым фунт ліха! Будзеце ведаць!

Цяпер бы самы раз з Мурыкам падурэць. Ды дзе той Мурык? На дзесятым сяле!

Пакруціўся Сева на адной назе і пайшоў у хату. Узяў з паліцы дзядулеву тоўстую кнігу, сеў за стол. Кніга цікавая, пра коней. І з малюнкамі.

Толькі Сева ўладкаваўся малюнкі глядзець, як на ганку: туп-туп.

„Хто там такі? — Сева ўзняў галаву, прыслухаўся. Бабуля не гэтак ходзіць. І ў дзядулі крокі не такія“.

На ганку зноў: туп-туп-туп.

„Мо разбойнікі якія? Даведаліся, што я адзін... Чаму тады Жук не брэша? А-а, ды ён жа злуецца на мяне. Недзе думае: от няхай цяпер паскача“.

Падумаў гэтак Сева, і яму зрабілася страшна. А тупат чуецца ўжо ў сенцах, бразнула каромысла.

„Што рабіць?“

У Севы мурашкі забегалі па спіне, закалацілася сэрца.

„Хутчэй замкнуцца!“

Лёгка сказаць — замкнуцца! Чым? Ключ у сенцах, на цвічку. Не будзеш жа прасіць у разбойнікаў, каб падалі яго.

Сева азірнуўся: ёсць выхад.

Ён вылез з-за стала, на пальчыках пракраўся ў мыцельнік, схапіў таўкач, якім бабуля бульбу таўчэ. Асцярожна падышоў да дзвярэй і засунуў таўкач за ручку.

— Цяпер, даражэнькія, сядзіце ў сенцах! Сюды вам не трапіць.

За дзвярыма нешта з грукатам абярнулася, дробна рассыпалася.

Сева пачуў, як за дзвярыма нехта засоп, потым штосьці буркнуў. Яму гэтак жа адказаў другі.

„Іх там, відаць, шмат. Не панашаму перагаворваюцца, — падумаў Сева. — Што, як дзверы пачнуць ламаць?.. Не, грукату пабаяцца. А калі не пабаяцца?.. Усё было б добра, каб я Жука ды Мурыка не пакрыўдзіў. Жук, канечне, абараніў бы мяне. І Мурык мог бы дапамагчы. Хаця наўрад: баязлівы ён.“

У сенцах ужо не тупаюць, храбусцяць нечым.

Сева падцягнуў да дзвярэй стол, на стол паставіў зэдлік, услончык.

„Пачнуць у дзверы малаціць — таўкач з-за ручкі можа выехаць. Тады іх барыкада затрымае, — падумаў Сева. — А я схаваюся ў другім пакоі, у тым, што бабуля „чыстай хатай“ заве“.

Сева кінуўся ў суседні пакой, падскочыў да буфета, даўнейшага, з цёмнага дрэва, адчыніў дзверцы.

„Схованка што трэба, але настойкай ды варэннем застаўлена...“

Сева выставіў усё на стол, залез у буфет, зачыніўся.

Цесна ў буфеце, цёмна. А Севу весела. Ён уявіў, як разбойнікі залезуць у хату, нап'юцца настойкі і ён іх звяжа іхнімі ж доўгімі бародамі — павінны ж быць у разбойнікаў доўгія бароды, як у Карабаса-барабаса! Будуць ведаць, пачым фунт ліха. Уся вуліца паглядзець збяжыцца!.

Раптам у кухні пачууся грукат.

„Уварваліся-такі. Барыкаду расцягваюць, — здагадаўся Сева. — Ну лезьце, лезьце. На сваю галаву!“



Нарэшце рыпнулі, зазвінелі шкляныя дзверы. Сева пачуў крокі.

— Божухна, што тут робіцца!

„Голас як быццам бабулі. Толькі гэта іхнія хітрыкі. Дудкі, не падманеце, не на таго напалі!“

Тут нечакана дзверцы буфета расчыніліся. Так нечакана, што Сева і спужацца не паспеў.

— Дык вось ты дзе, распуснік!

Бабуля. Гэта яна, відаць, і ў дзверы барабаніла, першую лінію абароны прарывала.

Бабуля выцягнула Севу з буфета, паставіла на ногі.

— Жывы? Цэлы? Я ўжо не ведала, што і думаць.

— Што мне зробіцца! — Сева нездаволена чмыхнуў носам. — Каб не ты, сам бы ім паказаў, пачым фунт ліха. Усіх бы пералавіў!

— Каго?

— Разбойнікаў.

— Якіх разбойнікаў?

— Тых, што ў сенцы ўварваліся.

— Вунь яно што! Дык то ж не разбойнікі былі.

— А хто?

— Парсюкі, выскачылі з загарадкі і ўлезлі ў адчыненыя сенцы.

— Парсюкі?

— Але. Вядро з вадою перавярнулі, бульбу з каша высыпалі. Ты іх спалохаўся.

— Ну-у, бабуля! — Сева пачырванеў. — Ты не разабралася. Спачатку былі разбойнікі. Я ведаю... А потым, як ты прыйшла, яны, відаць, у парсюкоў ператварыліся.

— Няхай будзе гэтак, — засмяялася бабуля. — Давай парадкаваць у хаце. Бо хутка дзед з фермы прыйдзе. Тады ўжо не разбойнікі — мы з табою даведаемся, пачым фунт ліха.

# Салдат Іванька

**Беларуская народная казка**

Служыў салдат Іванька дваццаць пяць гадоў, адслужыў і пайшоў дамоў. І меў ён пры сабе толькі тры капейкі грошай. А быў гэты салдат добры па натуры: апошнім падзеліцца.

Вось ідзе ён, ляціць насустрач жучок.

— Добры дзень, салдат!

— Добры дзень, жучок!

— Служыў ты, салдат, дваццаць пяць гадоў?

— Служыў.

— Выслужыў тры капейкі грошай?

— Выслужыў.

— Дай мне адну капейку! Я табе, як бяда будзе, адплачуся.

Добры салдат узяў і аддаў яму адну капейку. Жучок падхапіў капейку і паляцеў сваёю дарогаю.

Ідзе салдат і думае: „Нічога, яшчэ ў мяне дзве капейкі засталося: за адну чарку вып'ю, а за другую махоркі куплю“.

Толькі ён так падумаў, як бачыць — бяжыць мышка:

— Добры дзень, салдат!

— Добры дзень, мышка!

— Служыў ты, салдат, дваццаць пяць гадоў?

— Служыў.

— Выслужыў тры капейкі грошай?

— Выслужыў.

— Даў жучку капейку?

— Даў.

— Дай і мне адну капейку! Я табе, як бяда будзе, адплачуся.

Добры салдат даў і мышцы капейку. Мышка схапіла капейку ды пацягнула ў сваю норку. „Ну што ж, — думае салдат, ідучы далей, — піць не буду, куплю за апошнюю капейку махоркі і так дайду“. Толькі ён гэта падумаў, як бачыць: паўзе рак з-пад мосціка:

— Добры дзень, салдат!

— Добры дзень, рак!

— Служыў ты, салдат, дваццаць пяць гадоў?

— Служыў.

— Выслужыў тры капейкі грошай?

— Выслужыў.

— Дай мне адну капейку. Я табе, як бяда будзе, адплачуся.

Аддаў добры салдат і апошнюю капейку, а сам пайшоў далей.

Прыходзіць у вялікі горад. Бачыць: каля царскага палаца поўна народу. І ўсе багатыя — князі ды каралі, генералы ды гусары. Адны на дудках ды на скрыпках іграюць, другія вясёлыя песні спяваюць, трэція розныя фокусы паказваюць. Асабліва адзін нейкі каралевіч з пер'ямі на капелюшы стараецца — усіх распіхае, сам наперад ірвецца.

— Што тут такое? — пытаецца салдат Іванька ў царскага слугі.

— Ды вось, — адказвае слуга, — справа якая: ёсць у цара дачка адзіная, яна зроду яшчэ не смялася, і ніхто не можа яе рассмяшыць. А цар абвясціў, што той, хто яе рассмешыць, стане яе мужам.

Салдат падхрабрыўся, падкруціў вусы і пачаў прабірацца бліжэй да палаца. „Можа, — думае, — мне ўдасца яе рассмяшыць?“

— Куды, ты, брудны салдат, прэшся? — закрычаў на яго каралевіч з пер'ямі на капелюшы. — Тут без цябе жаніхоў хапае!

Схапіў ён яго за каўнер і піхнуў прэч. Салдат спатыкнуўся ды плюхнуўся ў брудную лужыну — толькі што перад гэтым вялікі дождж прайшоў.

Устаў салдат мокры, запэцканы, шынялёк у гразі. „Вось дык прыгода! — думае. — Як жа цяпер высушыцца? Эх, каб тут жучок, мышка ды рак былі, можа б, яны мне ў бядзе памаглі?“

Толькі ён так падумаў, як сталі перад ім жучок, мышка і рак.

— Ну што, — пытаюцца, — у цябе, салдат, за бяда такая?

— Ды так і так, — кажа салдат.

— Скідай свой шынялёк!



Салдат скінуў. Жучок, мышка і рак падхапілі шынель і павалаклі на рэчку. Убачыла гэта царская дачка з палаца — задзівілася: што за камедыя?

Памылі салдатавы памочнікі шынель і пацягнулі на бераг сушыць. Стаў рак на шыйцы, клюшні ўгору падняў, а жучок з мышкай павесілі на клюшні шынель. Рак не ўтрымаўся — паваліўся ў гразь разам з шынялём... Зноў пацягнулі яны шынель у рэчку. Мышка выкручвае, а жучок вакол шыняля лятае, крыльцамі махае, вецер наганяе, каб хутчэй сох.

Царэўна глядзела, глядзела на ўсё гэта ды і засмяялася. Пайшла да бацькі і кажа:

— Ніхто ні з князёў, ні з каралёў, ні з генералаў не рассмяшыў мяне, а рассмяшыў просты салдат. За яго я і пайду замуж.

Цар хоць і не рады, што зяцем яго будзе просты салдат, ды нічога не зробіш.

Стаў салдат мужам царскай дачкі, а жыць у палацы не хоча.

— Я да палацаў, — кажа, — не прывык: буду жыць у простай хаце. Ты мне, жонка, толькі салдацкіх харчоў сюды прысылай і махоркі паболей.

Пабудавалі яму простую хату ў царскім садзе, ён і застаўся жыць там. Жыве і бяды не знае.

Тым часам каралевіч з пер'ямі на капелюшы сам стаў каралём, але ніяк не мог забыцца крыўды, што царская дачка выйшла замуж не за яго, а за простага салдата. Сабраў ён свае войска і пайшоў на цара вайною.

**Працяг у наступным нумары.**




## СТАРАЖЫТНЫЯ ВЫНАХОДНІЦТВЫ

**Фінікіяне**

Прыблізна на паўдарозе паміж Егіптам і Вавілонам, на ўсходнім беразе Міжземнага мора, ляжала невялікая краіна, якая называлася Фінікіяй.

У фінікіян не было ні добрай зямлі, ні багатай пашы. Жыхароў Фінікіі здаўна карміла мора і марскі гандаль. На сваіх маленькіх лодках фінікійскія купцы не толькі адважна плавалі па ўсім Міжземным моры, але і выходзілі праз праліў у Атлантычны акіян. На поўнач яны заплывалі аж да Брытанскіх астравоў — сучаснай Англіі.

З Англіі фінікіяне везлі волава, без якога нельга было зрабіць бронзы. А бронза ў тыя часы была самым неабходным для людзей металам: тады ж жалеза яшчэ не ведалі. Фінікійскія купцы плавалі таксама і далёка на поўдзень — уздоўж берагоў Афрыкі. З Афрыкі купцы прывозілі слановую косць, золата, дарагія каменні.

Мора для фінікіян было не толькі кармільцам, але і настаўнікам. Раней за ўсіх іншых народаў фінікіяне зразумелі, што Зямля круглая. Бо кожны раз, калі карабель набліжаўся да берага, спачатку паказваліся яго вярхушкі мачтаў, потым ветразі і толькі потым з-за „горба“ мора паказваўся сам карабель.

Фінікіяне плавалі не толькі ўздоўж берагоў, але і ў адкрытым моры. Таму фінікійскія маракі добра вывучылі зорнае неба. Яны ведалі, што на небе зоры не ўсюды тыя ж самыя.

Кіруючыся з Міжземнага мора да Брытанскіх астравоў, маракі бачылі, што Палярная зорка і іншыя зоркі паўночнай паловы неба ўзнімаюцца ўсё вышэй, а паўднёвыя зоркі хаваюцца за гарызонт.

А калі фінікіяне плылі на поўдзень, у Афрыку, усё адбывалася наадварот. Паўночныя зоркі схіляліся ўсё ніжэй і ніжэй, а з-за паўднёвага гарызонта паказваліся новыя, незнаёмыя сузор'і, якіх не было відаць над Фінікіяй. Нарэшце Палярная зорка зусім схавалася за гарызонтам. Вы, мабыць, ужо здагадаліся, што гэта азначала: фінікійскія караблі перасякалі экватар і пераходзілі ў паўднёвае паўшар'е.

*(Працяг у наст. нумары.)*



Станіслаў Шушкевіч

## БЕЛЫЯ ПАНЧОШКІ

*У маленькай кошкі*
*Белыя панчошкі,*
*Беласнежны фартушок,*
*Белы банцік аж да шчок.*
*Вельмі шкода, вельмі шкода,*
*Што ў яе такая мода,*
*Бо зімой і летам*
*У адно адзета.*
*Кожны, пэўна згодзіцца,*
*Часта мыць прыходзіцца.*

## КОНІ

*У Данілкі коні —*
*Конікі малыя.*
*Вецер не дагоніць —*
*Мчацца вараныя.*

*Скачуць, скачуць коні,*
*Аж дрыжыць падлога.*
*Капытамі звоняць,*
*Рвуцца у дарогу.*

*А вазок маленькі*
*Коламі туркоча.*
*Што ж, калі Міколка*
*Ехаць з ім не хоча.*

*Цягнікам кіруе,*
*Свеціць семафорам.*
*Пэўна машыністам*
*Будзе ці шафёрам.*

**Л. Танкевіч**






* ✼ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 169, кв. 69. Аксана Ліпская, вучаніца 6 класа.

* ✼ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Лугавая, 28. Жэня Радзішэўскі, вучань 9 класа.

* ✼ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Гагарына, 99. Алена Лазарэнка, вучаніца 9 класа.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 2, кв. 39. Іна Драбушэвіч, вучаніца 4 класа.

* ✼ *

БССР, 220083, г. Мінск-83, вул. Убарэвіча, 166, кв. 103. Таццяна Барздыка, вучаніца сёмага класа.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, І-шы зав. Р. Люксембург, 28, кв. 88. Іра Кузняцова, вучаніца 4 класа.

* ✼ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 2, кв. 63. Юля Старавойтава, вучаніца 4 класа.

* ✼ *

БССР, 220093, г. Мінск-93, вул. М. Лынькова, 7, к. 5, кв. 161. Аксана Ягорава, вучаніца шостага класа.

* ✼ *

БССР, 220093, г. Мінск-93, вул. Д. Сердзіча, 40, кв. 49. Марына Буцянава, вучаніца пятага класа.

* ✼ *

Галіна Грыгарук, вучаніца сёмага класа, в. Махнатае 54, пошта 17-206 Старакорнін, Беластоцкае ваяводства.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

На ўроку матэматыкі:

Настаўнік: „У цябе быў адзін яблык. Ты яго з'еў. Колькі засталося?“

Вучань: „Чатыры семкі і адзін хвосцік“.

* ✲ *

— Дзядуля, у цябе ніводнага зуба ўжо не засталося?

— Не...

— Тады патрымай мае арэхі.

* ✲ *

Бабуля-суседка прыводзіць хлопчыка да бацькі.

— Ваш сын убіў мяч у маё акно!

— Праўда? А на якой мінуце? — пацікавіўся бацька.

* ✲ *

Трэнер дакарае баксёра:

— На ўдар праціўніка ты нават не зарэагаваў!

— Як жа не зарэагаваў? Я ж упаў!

* ✲ *

— Ну, як справы?

— Добра! Я чатыры гадзіны лавіў рыбу.

— І што злавіў?

— Нічога.

— Дык што ў гэтым добрага?

— Бо я мінулым разам праседзеў восем гадзін і нічога не злавіў.

## АДГАДАНКА




**Знайдзі дарогу да трубкі, лялькі, кніжкі і самалёта.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**